# ВІНШУЕМ З 74-МІ ЎГОДКАМІ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

Жыве Беларусь!

# ПАГОНЯ

Грамадзка-палітычная газэта

№ 0 (1) Серада, 25 сакавіка 1992 года

## ДА ЧЫТАЧА

*Нам выпала сустрэцца ў вельмі няпросты час. Неабходнасьць амаль кожнаму трэцяму з ліку жыхароў Беларусі штодня думаць пра тое, як пракармiцца на той 550-рублёвы пражытковы мінімум, які вызначаны нам нашым урадам і нашымі дэпутатамі, відавочна, ня спрыяе думкамі аб чытаньні газэт. Ды і выданьне апошніх стала далёка ня простай задачай. І, тым ня меньш — мы сустрэліся.*

*Мы сустрэліся пасля больш чым сямідзесяцігадовага перапынку. У 1919 годзе ў Гародні выдавалася 5 беларускіх газэт. З тых часоў ніводнага роднага друкаванага слова гарадзенцы ня бачылі. Спробы капээсэсаўцаў затлуміць нашыя галовы партыйна-савецкай хлусьнёй на старонках пасьляваеннай «Гродзенскай праўды» не ў лік, бо ўсё што там было надрукавана па-беларуску было накіравана супраць Беларусі, супраць беларушчыны. Нас спакваля прывучалі размаўляць ня так, як размаўлялі нашыя продкі; думаць ня так, як думалі нашыя дзяды; жыць ня так, як спрадвеку жылі людзі на нашай зямлі.*

*Але, дзякуй Богу, ня прывучылі. Мы адраджаемся. І вельмі сімвалічна, што вяртаньне да сябе, да сваіх каранёў, як і ў далёкім 1919 годзе, адбываецца далёка І, тым ня меньш — мы сустрэліся.*

*Даўно вядома, калі адляталі мішура і шалупіньне, калі скідваюцца ілжэ-куміры і разбураюцца ілжэдогмы, то застаецца тое вечнае, што ніколі ня адыйдзе ў нябыт. Гэта — зямля, якая нас парадзіла і мы на гэтай зямлі, паўтораныя ў дзецях, ўнуках і праўнуках, Гэта — наша Бацькаўшчына.. Гэта — Беларусь.*

*Мы шмат страцілі, шмат у чым спазьніліся. Наперадзе вялікая і цяжкая праца, мэтай якой ёсць вяртаньне ва ўлоньне еўрапейскіх народаў, як роўных сярод роўных. І прыкладам тут павінен стаць даўні звычай нашых славутых продкаў — няўрымсьлівая Пагоня. Усе разам, талакою, мы ў стане дагнаць там, дзе спазьніліся, здабыць тое, што страцілі. Спадзяёмся, што і наша «Пагоня» будзе дарэчы ў гэтай сьвятой справе.*

*Мы ня зьбіраемся заклікаць, каб нас любілі толькі за тое, што мы выдаемся па-беларуску. Мы будзем рабіць газэту, якая б сталася канкурэнтназдольнай сярод іншых выданьняў. Вытрымаць выпрабаваньне рынкавай экономікай можна толькі пры ўмове Вашай падтрымкі, і калектыў рэдакцыі зробіць ўсё дзеля таго, каб мы з Вамі былі заўсёды патрэбны сябар сябру.*

*Мы будзем пісаць пра ўсё, што хвалюе кожнага сёньня: цэны і прыватызацыя; дзейнасьць Вярхоўнага Савету і сацыяльна-эканамічныя праблемы рэгіёну... У нас Вы знойдзеце аператыўную інфармацыю з другіх куткоў Рэспублікі і крымінальную хроніку, парады хатнім гаспадыням і выступы па эканамічным праблемам... Безумоўна, належнае мейсца будзе адведзена спорту, народнай адукацыі. У пэрспэктыве плануем значна пашырыць рэкламны аддзел, даваць больш інфармацыі аб тым, што адбываецца на гарадзенскіх біржах...*

*Разам з тым, мы разумеем, што ня толькі хлебам адзіным жывы чалавек. Няма прыкладаў у гісторыі сусьветнай цывілізацыі, каб толькі эканамічныя праблемы прыводзілі ў занепад цэлыя дзяржавы і нацыі. А вось падобных прыкладаў, зьвязаных з упадкам маралі, стратай духоўных і культурных каштоўнасьцяў, процьма. Адсюль і наша пільная ўвага да тых працэсаў, якія адбываюцца і будуць адбывацца ў культурным жыцьці. Мы будзем рэгулярна знаёміць Вас з творчым жыцьцём Прынямоньня, даваць слова тым, хто найбольш яскрава ўвасабляе творчы патэнцыял нашага краю.*

*Не забудзем і пра кроўныя нашы сувязі з Віленшчынай і Беласточчынай. Нашыя суайчыньнікі і ў іньшых кутках сьвету. Натуральна, што інфармацыя аб іх жыцьці і турботах будзе частым госьцем на нашых старонках.*

*Асобы наш клопат — наша агульнае гістарычнае беспамяцтва і невуцтва. Мы і дагэтуль мала што ведаем пра тое, спадкаемцамі якой багатай спадчыны з'яўляемся. Расьцягнуты па іншаземных вуглах Міцкевіч і Касьцюшка... Кожны школьнік можа сказаць колькі слоў пра Кулікова поле, але нічога ня чуў пра Грунвальд... Аб чым тут казаць калі нават дзень 25 сакавіка — дзень нараджэньня беларускай дзяржаўнасці ў новай гісторыі — і дагэтуль невядомы абсалютнай большасьці...*

*Спадзяёмся, што агульнымі намаганьнямі мы здолеем вырашыць пастаўленыя перад намі лёсам і гісторыяй праблемы. Спадзяёмся, што ў самым хуткім часе «Пагоня» стане жаданым госьцем у кожнай сям'і. Ну, а пакуль што: у добры шлях.*

*Жыве Беларусь!*



*На Захад — значыцца ў Эўропу...*

### ДЗЕ НАС ЗНАЙСЬЦІ

Як вядома, гарадзенскі гарвыканкам пераехаў нядаўна ў будынак колішняга бальшавіцкага гаркаму. У вызваленых гарадзкой уладай памяшканьнях атрымалі пакоі адраджэнскія арганізацыі: ТБМ імя Фр. Скарыны, БСДГ, БНФ, культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына», гісторыка-культурны клюб «Паходня». Цікава, што за польскім часам у гэтым будынку на вул. Савецкай, 10 разьмяшчаўся гатэль «Славянскі».

М. С.

### ПРЭЗЭНТ САВЕЦКАГА НАРОДУ

Нядаўна польскі друк абыйшло сэнсацыйнае паведамленьне. Напрыканцы 40-х і ў пачатку 50-х гадоў у Польшчы існавала 8 лагераў прымусовай працы накшталт савецкіх. Зь іх — некалькі на ўскрайнах самой Варшавы. Зьняволеныя дапамагалі будаваць славуты дарунак савецкага народу палякам — Палац навукі і культуры ў сталіцы, ад якога яны ня ведаюць як пазбыцца, бо, скапіяваны з маскоўскіх, парушае традыцыйны архітэктурны сілуэт Варшавы і сімвалізуе сабой савецкае панаваньне ў Польшчы.

Цікава, што па словах былых зьняволеных, яны выраблялі жалезабэтонныя бэлькі, на якіх рабіліся расейскія надпісы і будаўнікі, якія па іх прыязджалі, размаўлялі па-расейску. Вось вам і бясплатна палац! Зрэшты, у польскіх лагерах, якія братняму народу Саветы таксама спрэзэнтавалі, зьняволеныя таксама працавалі бясплатна.

С. С.

### ЛЯТАКОМ У ПОЛЬШЧУ

Як вядома, нядаўна паміж Беларусьсю і Польшчай падпісана пагадненьне аб дыпляматычных адносінах. Польскіх і замежных журналістаў уразіла тое, што для падпісаньня пагадненьня міністр замежных справаў Рэспублікі Беларусь П. Краўчанка прыбыў у Варшаву аўтамабілем, што ў падобных выпадках здараецца надзвычай рэдка. Калі разважыць над гэтым фактам, дык ня ехаць жа было яму маршрутным аўтобусам або цягніком? Бо авіязносін паміж Варшавай і Менскам пакуль няма, а ўрадавымі лятакамі ў нас карыстаецца, напэўна, толькі начальства, вышэйшае за міністра замежных справаў.

Але ў будучыні ўсё можа зьмяніцца. Нядаўна адчынілася новая авіялінія Варшава — Вільня. А пад Беластокам у Крыўлянах або Жуках амэрыканская фірма «Эйр трэйд карпарэйшн» мае пабудаваць лётнішча, адкуль будуць наладжаны авіязносіны з Горадняй, Вільняй і Менскам.

С. А.

## «ПАГОНЯ»? «ПАГОНЯ»!

Даведаўшыся пра назву газэты, якую мы маем выдаваць, адзін чалавек зморшчыўся, нібы пакаштаваўшы кіслага яблыка: маўляў, колькі ж можна паўтарацца! Пасьля гэтага выпадку я задумаўся яшчэ раз над гэтай назвай і разважыў, што яна ня можа надакучыць гэтак жа, як наш сьцяг або герб. Што ж датычыць проста паўтора, дык і такі закід зусім неабгрунтаваны.

Газэта «Пагоня» у 1920 годзе выходзіла як ворган Міністэрства Беларускіх Справаў урада Летувы ў Вільні і Коўні, куды мусіла эміграваць пасьля захопу Гародні ў красавіку 1919 г. палякамі Рада БНР. Такім чынам, мы маем папярэдніцу, духоўна й гэаграфічна нам блізкую. Дарэчы, у тым жа 20-м годзе ў нас у Гародні існавала і Беларускае Прасьветнае Таварыства «Бацькаўшчына», якое выдавала тыднёвік «Бацькаўшчына», закрыты польскімі акупантамі.

Пазьней, у Другую Сусьветную вайну газэта «Пагоня» таксама існавала, праўдападобна, у Баранавічах. Напрыканцы 40-х гадоў, за гэтым разам у Аўстрыі, выдаваўся аб'ёмны літаратурна-грамадзкі часопіс «Пагоня». Сёньня ў Канадзе ў Тароньце існуе выдавецтва з такой жа назвай. А цяпер будзе яшчэ і наша газэта. Спадзяёмся, што яна працягне слаўную старонку з гісторыі гарадзенскага беларускага друку.

У 1919 годзе ў нашай Гародні выходзілі наступныя беларускія выданьні:

«БЕЛАРУСЬ», двойчы на тыдзень, ворган Цэнтральнай Рады Гарадзеншчыны;

«ЗОРКА», тыднёвік Горадзенскага Беларускага Камітэту;

«РОДНЫ КРАЙ», ворган Беларускай Партыі Эсэраў, пад рэдакцыяй Тамаша Грыба. Забаронена палякамі;

«БЕЛАРУСКІ НАРОД», двойчы на тыдзень;

«БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА», пад рэдакцыяй Сымона Рак-Міхайлоўскага.

Спадзяёмся, што новая старонка беларускай дзяржаўнасці пад бел-чырвона-белым сьцягам і Пагоняй больш ня будзе гвалтам перапынена, а большасьць газэт у будучыні будзе выдавацца ў Гародні па-беларуску.

А. АКУЛІЧ.

# «ХОПІЦЬ ЛІЦЬ СЛЁЗЫ ПРА БЕЛАРУСЬ...»

*Культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына» паўстаў зусім нядаўна. Тым ня меньш, сёння ўжо немагчыма ўявіць адраджэнскі рух у Гародні без гэтай грамадзкай арганізацыі. Выданьне беларускай газэты, фінансавая падтрымка клубу «Паходня» і Гарадзенскай харугвы скаўтаў, захады па стварэньню ў Гародні філіі Беларускага гуманітарнага ліцэю на базе нядзельнай школкі, наладжваньне цесных сувязяў з суайчыньнікамі за межамі Беларусі, найперш на Беласточчыне...*

*Аб дзейнасьці «Бацькаўшчыны», яе задачах і пэрспэктывах наша гутарка са старшынёй праўленьня фонду, народным дэпутатам Рэспублікі Беларусь Міколам Маркевічам.*

**— Спадар Мікола, паўгода існаваньня фонду гэта ня такі вялікі тэрмін, каб рабіць далёка ідучыя высновы. Але, падсумоўваючы тое, што ўжо зроблена па адраджэньню беларушчыны ў рэгіёне, ловіш сябе на думцы: калі б фонду ня было, яго варта было б... утварыць.**

— Усё ж такі спадзяёмся, што «далёка ідучыя высновы» ўжо рабіць можна. Зробленае мае трывалы фінансавы падмурак, які мацуецца за кошт уласнай гаспадарчай дзейнасьці. Фонд стаўся заснавальнікам пяці малых прадпрыемстваў, якія ўжо дзейнічаюць, сузаснавальнікам дзьвух біржаў, уладальнікам больш дзесяці брокерскіх кантораў. Атрымана і пачынае выкарыстоўвацца права на пасрэдніцкія апэрацыі ў знешнеэканамічнай дзейнасьці. Неблагі прыбытак прыносіць занятак міжнародным турызмам...

А пачалося ўсё з ідэі: хопіць ліць слёзы пра Беларусь, бедаваць аб тым у якім заняпадзе знаходзіцца нашая мова і культура — трэба пачынаць практычную працу па іх адраджэньню. Нельга сказаць, што такія думкі ня ўзьнікалі раней. Але ўсе планы перакрыжоўваліся адсутнасьцю грошай. Цяпер вырашаецца і гэтая праблема...

**— Але ж, відаць, пачыналася гэтая праца не на пустым мейсцы!**

— Так. Мы ўжо мелі цэлае кола аднадумцаў, якія і сталі пачынальнікамі. Шмат сілаў аддалі станаўленьню «Бацькаўшчыны» наш знакаміты пісьменьнік Аляксей Нічыпаравіч Карпюк (ён цяпер прэзыдэнт фонду), старшыня Гарадзенскага гарсавету народных дэпутатаў Сямён Мікалаевіч Домаш і ягоны намесьнік Аляксандр Уладзіміравіч Мілінкевіч. Дарэчы Гарадзенскі гарвыканкам, а таксама калектывы цэлага шэрагу буйных прамысловых прадпрыемстваў рэгіёну, у прыватнасьці, вытворчыя аб'яднаньні «Азот», «Хімвалакно», «Гроднааблаўтатранс», Наваградскі завод газавай апаратуры, ня толькі сталі калектыўнымі сябрамі фонду, але і аказалі значную першапачатковую фінансавую падтрымку. У ліку гэтых арганізацыяў трэба назваць Міністэрствы культуры і адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Сваю ролю згуляла і тое, што ад пачатку рашэньнем выканкама Гарадзенскага абласнога Савету народных дэпутатаў фонд і засноўваемыя ім юрыдычныя асобы былі вызвалены ад уплаты падатку на прыбытак...

Карыстаючыся магчымасьцю, хацеў бы падзякаваць усіх, хто блізка да сэрца ўспрыняў ідэю нацыянальнага адраджэньня, дапамог і дапамагае рабіць фонду крокі на гэтым шляху.

**— Сьпіс спонсараў фонду памнажаецца. Зусім нядаўна да яго далучыўся калектыў Гарадзенскага прадзільна-ніткавага аб'яднаньня... Дык можа лепш было б сканцэнтраваць намаганьні толькі на культурна-асьветніцкай дзейнасьці!**

— У іншых умовах, відаць, і, сапраўды, можна было б спадзявацца толькі на ахвяраваньні. Тым больш, што накіраваныя на наш рахунак сродкі таксама не абкладваюцца падаткам на прыбытак, пры ўмове, калі гэтыя сродкі ня перавышаюць аднаго працэнта ад разьліковага прыбытку прадпрыемстваў-спонсараў.

Але ж няма гарантыі, што заўтра гэтая крыніца паступленьняў не зьмялее. Мы ж упрагліся ў такі воз, які вымагае нейкай стабільнасьці ў фінансавых справах. На днях, напрыклад, прынята рашэньне устанавіць пяць стыпендыяў для маладых дзеячоў, якія ўносяць практычны ўклад у разьвіцьцё беларускай літаратуры, культуры, мастацтва і навукі. Быць у ролі тых, хто спачатку пракукарэкае, а потым ня дбае пра сьвітанак, мы не хацелі б.

Па-другое, у дзяржавы яшчэ ня хутка з'явіцца магчымасьць поўнасьцю задаволіць патрэбы грамадзтва ў культурным і духоўным жыцьці. Дык чаму ж хаця б частку праблем, зьвязаных з гэтым, ня ўзяць на свае плечы?

**— Адзін з галоўных накірункаў працы фонду — ўмацаваньне сувязяў з суайчыньнікамі за межамі Беларусі...**

— Лёс нашага народу такі, што сёньня за межамі Бацькаўшчыны жыве трэцяя частка нацыі. Геаграфія іх расьсяленьня вельмі шырокая — ад Карэліі да Якуціі і ад Канады да Аўстраліі, шмат беларусаў жыве ў Польшчы і Летуве. Большая частка нашых суайчыньнікаў ня забылася пра сваю беларускасьць. Яны маюць патрэбу і робяць актыўныя захады па наладжваньню цесных культурных і гаспадарчых сувязяў з зямлёй сваіх продкаў. Ігнараваць іхнія памкненьні мы ня маем маральнага права. Нельга ськідваць з рахункаў і тое, што гэтыя людзі часьцяком займаюць уплывовае становішча ў краінах свайго пражываньня, могуць прынесьці і прыносяць значную карысьць у справе пашырэньня ў сьвеце аўтарытэту незалежнае Беларусі, у справе міжнароднай гуманітарнай дапамогі, асабліва ў кантэксьце чарнобыльскай трагедыі.

Як рэгіянальнае аддзяленьне згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» (прэзыдэнт Васіль Быкаў) мы прынялі актыўны ўдзел у правядзеньні летам мінулага году фестывалю беларускай песьні ў Польшчы, нашы прадстаўнікі былі на Грунвальдскім полі на сьвяткаваньні гадавіны перамогі у Грунвальдзкай бітве. Заключана і пачынае выконвацца дамова аб супрацоўніцтве з Беларускім дэмакратычным аб'яднаньнем з Беластоку.

Спадзяемся на больш шчыльнае супрацоўніцтва з Беларускім цэнтрам у Лондане, прадстаўнік якога айцец Аляксандр Надсан ужо неаднаразова быў у Гародні, суправаджаючы буйныя партыі лекаў для чарнобыльцаў. Сабралі даволі вялікі банк дадзеных пра беларускія арганізацыі ў Расіі, Казахстане, Злучаных Штатах. Перамовы з імі вядуцца ня толькі пра культурныя стасункі, але і аб магчымасьцях інвестыцый у эканоміку нашага рэгіёну, падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі спецыялістаў за кошт нашых партнёраў у навучальных установах Захаду і Амэрыкі.

Дарэчы, зусім нядаўна падпісалі пагадненьне з кіраўніцтвам Гарадоцкай гміны Беластоцкага ваяводства, згодна з якім рэгулярна, пачынаючы з 1 красавіка, будзем накіроўваць пачынаючых фермераў з Гарадзеншчыны на практыку і стажыроўкі ва ўзорныя гаспадаркі гэтай гміны.

**— Дзякуй за інтэрв'ю. Ну і, вядома, жадаю посьпехаў у дзейнасьці фонду!**

**АД РЭДАКЦЫІ: для тых, хто хоча дапамагчы фонду паведамляем разьліковы рахунак: № 700201 МФО 40 947 714 у рэгіянальным камерцыйным банку «Комплекс» г. Гародня.**

## *Эканамічныя нататкі*

# ШТО ВЫЯВІЛА ЗАБАСТОЎКА

Ня слушна думаць, што забастоўка — з'ява для нас выключна новая і да нядаўняга часу — зусім невядомая працоўным калектывам. Па-просту раней, як чорт ладана, усе панічна баяліся самога гэтага слова, умелі гасіць стыхійныя бунты абяцанкамі або пагрозамі. Ды і само незадавальненьне рабочых праз сваю стыхійнасць гасла гэдак жа хутка як хутка і знянацку выбухала. Апошнія гады навучылі рабочых «забастовачнай логіцы» — арганізацыі і паслядоўнасьці, вылучэнню патрабаваньняў, выразнаму фармуляваньню невырашаных пытаньняў і г. д. Асабіста я не лічу забастоўку, асабліва ва ўмовах эканамічнай нестабільнасьці, лепшым спосабам адстайваньня сваіх інтарэсаў. Непрацаваць — сёньня занадта вялікая раскоша, але гэта адзіная магчымасьць зьвярнуць на сябе ўвагу і паспрабаваць дамагчыся зьменаў.

Якраз яго і выкарыстаў у пачатку лютага калектыў Гродзенскага заводу «Мікраклімат».

Працаўнікоў тут няшмат, наўрадці будзе нават паўсотні. Сабраліся, запрасілі дырэктара, і пачалося высьвятленьне адносінаў.

Першай прычынай да спыненьня працы стаў дзень выплаты заробку за студзень. Згадзіцеся, што атрымаць напярэдадні павышэньня цэнаў заробак у 400 з нечым рублёў — не самы лепшы жарт. Ні абяцанага падвышэньня заробку, ні прэміяльных рабочыя ў сваіх кішэнях не адчулі. Тое, чаму так атрымалася яны тлумачаць нізкай арганізацыяй вытворчасьці, (бо іх нават не забяспечваюць працай). А паколькі гэта права кіраўніцтва завода, дык пад пытаньнем аказалася прыдатнасьць дырэктара У. Ударцава. Пра тое, што «арганізацыя» сапраўды кульгала сьведчыць такі факт: частка рабочых больш за паўмесяца не мела вытворчага заданьня. Не хапала нават інструменту да працы. Своечасова не рэмантавалася абсталяваньне. Рабочыя незабяспечваліся загатоўкамі. Не былі вядомы нормы расцэнкі работ. Цэлы букет «Не».

І можа б ўсе гэта не вырашылася ўнутры калектыву, каб адсутнічала галоўнае — непавага да дырэктара.

Бо ўсе гэтыя пытаньні наогул вырашальныя. І патрабаваньні рабочых, а менавіта — павелічэньне тарыфных ставак, рэарганізацыя вытворчасьці, перагляд штатнага раскладу, якаснае забеспячэньне матэрыяламі і інструментамі, поўнае выкарыстаньне абсталяваньня (а частка абсталяваньня, дарэчы, у тым ліку станкі з праграмным кіраваньнем папросту стаяць на вуліцы) — можна цалкам вырашыць. Аказалася, што і прэмію можна выплаціць, хаця Уладзімір Лявонцьевіч і сьцьвярджаў, што калі план не выканы дык і прэміі быць ня можа. Маўляў, яны, рабочыя, лічаць яе гарантаванай даплатай да заробку. Карацей — не будзе ніякай прэміі і кропка.

Аднак слова свайго не стрымаў і напярэдані прыезду гэнеральнага дырэктара НВА «Комплекс» Т. Б. Сенюця («Мікраклімат» — адно з прадпрыемстваў аб'яднаньня) здаўся.

Вярнуся зноў да непавагі. У спрэчцы, пакуль высвятлялі адносіны з Ударцавым, у аднаго з прысутных вырваліся словы, якія прагучалі як прысуд: «вы — ніхто». І справа тут зусім не ў безцырымоннасьці або агрэсіўнасьці рабочых, а ў тым, што яны Уладзіміра Лявонцьевіча шчыра і глыбока не паважаюць.

З аднаго боку завод у цэйтноце. Трэба думаць ня толькі пра загатоўкі і план, але і пра тое як жыць далей, як прыстасоўвацца да рынку, існаваць і не загінуць у ім. І думаць перад усім не токару і слесару, а таму, каму думаць пра гэта належыць паводле пасады — кіраўніку. З другога боку на вачах у токара і слесара адбываюцца дзіўныя рэчы: грузіцца і вывозіцца сетка для агароджы. Куды? Вывозяцца каністры з бензінам. Для каго? Асабістыя гаражы будуюцца з заводскага металу, скруткі пленкі без усякага сораму адпраўляюцца следам за бензінам і сеткай...

Прадпрыемству выдзяляецца лядоўня і раптам зьнікае. Нейкія туфлі, аўтамабіль, шкуркі норак. Карацей, непрыемная дробная калядэфіцытная валтузьня. Да таго ж надзвычай кулуарная, бо нават старшыня прафкама С. Краўцэвіч нічога не ведала.

Да слова, у той жа дзень, калі «Мікраклімат» «баставаў», на заводзе працавалі прадстаўнікі БХСС, высвятлялі справу з норкамі. Шкуркі прадпрыемства атрымала паводле бартэру — 39 норак. Размеркаваны яны былі паміж начальнікам аддзелу снабжэньня, яшчэ дзьвумя начальнікамі і дырэктарам. Чаму?

— Яны ў нас былі на захаваньні, разумееце? Мы новы бартэр будзем ажыццяўляць!..

— А грошы вы за іх заплацілі?

— Так,— адказвае дырэктар.

Як цікава атрымліваецца! За асабістыя сродкі дырэктар і яго каманда будуць ажыццяўляць бартэрную зьдзелку для... прадпрыемства. Вось гэта дабрачыннасць! Праўда, ніхто ў гэтую святую ману не верыць і не паверыць ніколі. А БХСС ніякага крыміналу тут не ўбачыла: ніхто нічога не скраў. Але з пункту гледжаньня маральнасці ўчынак па-просту абуральны: І рабочаму гэта зразумела як двойчы два. І нежаданьне рабочага працаваць пад кіраўніцтвам нявартага начальства мацней за ўсе нявыплачаныя прэміі і неарганізаваныя пастаўкі. І ў рэшце рэшт гэткае нежаданьне можа быць і ёсць сэнс новай рабочай сьвядомасьці, якая яшчэ толькі нараджаецца і для якой важныя ня толькі сёняшні дзень з заробленымі за яго рублямі, але і будучыня з яе магчымасьцямі і пэрспэктывамі.

Працягам гісторыі быў прыезд на прадпрыемства Т. Б. Сенюця. Уступная размова гэнеральнага дырэктара мела мэнтарскую афарбоўку:

— Я прывык сустракацца з вамі ў больш прыемных выпадках. Хачу высьвятліць, што здарылася, чаму пры добрых леташніх паказчыках, у студзені — збой, у лютым — поўнае спыненьне. Калі раней планы выконваліся, значыцца кіраўніцтва таксама не спала ў шапку. Усіх задавальняла...

Гэтая сэнтэнцыя даволі ўразлівая. Ёсць план — ура дырэктару, а няма — вінаватыя рабочыя. Гэта ўсё адно, што ў нас дагэтуль існуе меркаваньне, што Сталін вайну выйграў. Аднак тады і ў выпадку посьпяху і ў выпадку няўдачы і пахвала, і пакараньне ў першую чаргу павінна адрасавацца адказнай асобе. У нашым выпадку — адказны У. Ударцаў, які тым ня меньш у сваім слове ў адказ доўга разважаў пра мінулыя дасягненьні, запэўніваў, што ўсе патрабаваньні рабочых ужо выкананы, а ваду каламуцяць 12 заўзятых забастоўшчыкаў. Вось іх якраз і трэба пакараць.

Зацятыя забастоўшчыкі аднак аказаліся ня толькі высокакваліфікаванымі спецыялістамі, але і спрактыкаванымі апанентамі. Іхнія аргументы — не дзіцячае дырэктарава лапатаньне.

В. Руткоўскі, фрэзероўшчык: «Дырэктару не раз гаварылі — завод на мяжы банкруцтва, трэба прымаць захады. Канструктары вымушаны былі працаваць «дасталамі». Тых хто не жадаў пагаджацца з такім становішчам — выжывалі. Галоўны інжэнер звольніўся, бухгалтар звольнілася... А каб выканаць план запрашаліся людзі аднекуль...

Г. Гайрош, фрэзероўшчык: «Восемь месяцоў мы працавалі над новымі станкамі. Прапаноўвалі свае варыянты, эканамічныя, цікавыя. Дырэктар быў супраць. Навокал гармідар: працуем на старым абсталяваньні, а новае на вуліцы марнуецца. А што дае сталярны цэх? У галаве ў кіраўніка павінны быць мазгі, а працаваць так як цяпер я не хачу...»

Не буду цытаваць далей, бо замнога спецыфічных, чыста вытворчых пытанняў — у некага 22 (!) дні прастойваў станок, нехта фрэзы купляе на ўласныя грошы і г. д. У рэшце рэшт заезджае начальства папрасіла ноч на роздум. А раніцай генеральны дырэктар «Комплекса» Т. Б. Сенюць паабяцаў зьняць дырэктара «Мікраклімату».

Зняў. У. Ударцава тут больш няма. Цікава куды і з чым ён адыйшоў? Кажуць, адыходзячы з пасады сакратара партарганізацыі завода карданных валаў, у дырэктарскае крэсла «Мікраклімату», ён забраў з сабою чаргу на аўтамабіль. На памяць аб дырэктарстве верагодна застануцца шкуркі норак... А ўвесь забастовачны вэрхал выявіў два моманты: рабочы дастаткова вырас эканамічна і разумее, што разавымі падачкамі жыць ня будзеш. Кіраўнік — гэта перш за ўсё «мазгі» прадпрыемства, а не кіруючыя рукі, да таго ж не заўсёды чыстыя.

**А. РАЎБЕЦКАЯ.**

 



# ВЁСКА, ВЁСАЧКА...



**Бадай самай безабароннай у новых умовах гаспадараньня, так званых рынкавых адносінах, засталася ізноў наша беларуская вёска. Пра яе ўсё чаьцей узгадваюць з высокіх моўніц, ёй абяцаюць, нават дапамагаюць на паперы, а яна толькі трывае і ізноў моўчкі (без усякіх мітынгаў і дэманстрацый, без левых і правых), не зьвяртаючы ўвагі на розныя перамены.**

**Надыходзіць вясна, ізноў трэба сеяць і садзіць, браць у рукі вілы і навозіць на палі ўгнаеньне, выганяць кароў у поле, трэба дбаць пра зямельку, глядзіш і яна не здрадзіць...**

Неяк нядаўна давялося выехаць з шэрага, бруднага пасьля зімы гораду ў вёску на Сьвіслаччыну, адведаць сваякоў, адпачыць.

Аўтобус, зьвярнуўшы ў лесе з шашы, выехаў на разьбітую калдобістую дарогу. Шафёр апавясьціў, што едзе толькі да наступнай вёскі, далей давядзецца пешкі, маўляў, дарогу разьвязло. А ўсяго і праехалі вёрст дванаццаць ад Ваўкавыска, адно і сусьпелі мяжу раёнаў мінуць.

Шлэпалі па бруду маладыя і старыя, цягнучы на плячах поўныя кайстры з хлебам і малаком, а ісьці яшчэ вёрст пяць. Добра хоць вецер у сьпіну дуў і ўсё ж неяк дабраліся, распавядаючы па дарозе адзін аднаму нясьмешныя па гэтых часах анекдоты.

У вёсцы здалося яшчэ цяжэй. Каб дабрацца на другі канец, патрэбна было зьмяніць абутак на больш практычны і добра спраўджаны за гады Савецкай улады — гумовыя боты (дарэчы, гэта таксама дэфіцыт і ў вясковай краме яго па просту не набудзеш). Але ж людзі тутэйшыя чулыя, пазычылі гараджаніну гэтыя самыя боты, каб усё ж дамогся сваякоў адведаць. Дабрацца то неяк дабраўся, але ніяк не мог уцяміць, як можна жыць так заўсёды.

На жаль ня шмат часу давялося гасьцяваць мне там — усяго выхадныя, праўда, часта наведваліся суседзі, людзі ўсё больш сталыя, цікавіліся, распытвалі, што будзе далей і самі шмат чаго апавядалі. Гаманілі за жыцьцё, за палітыку і эканоміку, за мову нашу беларускую, старэйшыя людзі усё больш узгадвалі, як было некалі...

— Так і жывём. Добра хоць хлеб у магазін завозяць, крупу якую, пенсію дабавілі, бульба свая, куры ўжо несьціся пачалі, а там глядзіш і лета не за гарамі. Ды і колькі нам старым трэба. А хто малодшы, руціцца трохі, гаспадарку трымае, праўда, няшмат іх тут ёсьць. За рэчкай катэджаў набудавалі, дык там толькі спецыялісты калгасныя жывуць, адзінае, у калгасе працаваць няма каму — усе вучоныя. З нашай вёскі адна баба ў брыгаду ходзіць і тая апошні рок да пеньсіі. Кароў калгасных даіць з іншых вёсак жанчын прывозяць, а астатнім часам салдаты наязджаюць, відаць, гной на кароўніках прыбіраць. Такая яшчэ пакуль механізацыя, а сваіх рук нямашака.

Ёсьць пару мужчын, дык апошнім часам у сталоўку сталі піва ці не па дзесяць рублёў завозіць, ды гарэлку чуць ці не за сотню, ды без талёнаў. Так хлопцы і сядзяць там цэлымі днямі, відаць, пакуль ня скончаць. Праўда, у гарачы час толькі да іх зьвяртацца даводзіцца. Хлопцы не адмаўляюць, але без бутэлькі не падыходзь.

Дырэктар у калгасе хіба гадоў восем і за гэты час нават кароўнік новы збудаваць ня здолеў, а дарогі вунь якія. Ды і што яму, зараз адгаворак колькі хочаш, а заробак добры мае, яшчэ адну легкавушку прыдбаў для калгаса і сам езьдзіць. Хіба мала такіх было тут за гэтыя пяцьдзесят гадоў. Прывязуць, назначаць, а самі паехалі. А той пабудзе, абжывецца, як трэба, і далей, на павышэньне.

Цяперака ў тэлевізары кажуць, што ў калгасах людзі таксама волю маюць і старшынь якіх трэба могуць абіраць. Можа яно недзе і так, але ў нас ужо няма каму гэта рабіць. Мы тут неяк на адным сходзе прапаноўвалі, каб нашы спецыялісты зямлю бралі, ды паказвалі людзям, як працаваць трэба, Дык былы яшчэ тады паторг адказаў, што ён шэсць гадоў вучыўся не дзеля таго, каб потым зямлю апрацоўваць.

А колькі здольных людзей пакінулі нашу вёску, ды на нейкія шахты падаліся заробкаў шукаць, а старыя толькі мруць як мухі. Адно вокны ў хатах і пасьпяваем забіваць. Ды што там, вунь нядаўна мужык з жонкай у адзін дзень памерлі, дык хадзілі па вёсцы дошкі на труны зьбіралі, бо ў калгасе дошак няма, а лес вунь, навокал.

А што далей? Можа паціху неяк зьменіцца. Былі ж гадзіны і больш складаныя, але мы тут жылі працавалі, з голаду ня пухлі. Цяперака галоўнае людзей адрадзіць, нацыю нашу пакутніцу, каб урэшце мовы сваёй не саромеліся, і з часам усё павінна наладзіцца. Можа і людзі нашы з чужыны вернуцца, бо што яны ў тых гарадах бачаць,— юцяцца ў інтэрнацкіх пакойчыках цэлымі сем'ямі ды і пракарміцца ў горадзе зараз цяжка. А ў былых рэспубліках адзін аднаго ня любяць. Хай бы ехалі нашы «эмігранты» дахаты, мейсца пэўна ўсім хопіць, ды й зямлю хутка абрабляць ня будзе каму, калі мы адны старыя засталіся.

А, увогуле, цяжка загадваць, што там далей будзе, дасьць Бог, можа яшчэ пажывём, пабачым чаго лепшага.

... Вяртаўся я назад, ужо цямнела, выбраўся з непраходнага бруду, зьмяніў у людзей добрых гумовыя боты на свой абутак і пашлёпаў па гразі з гасьцінцамі ад цёткі ў другую вёску, куды аўтобус даходзіць.

**Т. МІКШУТА.**

**НА ЗДЫМКАХ: тыя, на кім яшчэ трымаецца беларуская вёска.**

# НА БЕЛАРУСКА-ЛЕТУВІСКІМ ПАМЕЖЖЫ

*Звычайны вагончык, над ім лунае бела-чырвона-белы сьцяг, просьценькі шлагбаўм і трох узброеных дзяржаўных супрацоўнікаў дарожна-дазорнай службы. Гэта і ёсьць дзяржаўная мяжа Рэспублікі Беларусь з Летувой. Усяго такіх кантрольна-прапускных пунктаў на тэрыторыі Гродзенскай вобласьці трынаццаць. Ніякія новыя структуры па ахове дзяржаўнай мяжы пакуль не ўтвораны, папросту дадатковыя функцыі ускладзены на Дзяржаўтаінспекцыю. Усё, як і звычайна ў беларусаў, сьціпла, без усякае раскошы.*

*Па другі бок — стацыянарныя забудовы з цэглы і бетону на доўгія гады, праўда, і там стомленыя пасьля ночы людзі, грэюць на вогнішчы гарбатнік. Гэта мяжа з боку Летувы.*

*Больш падрабязна пра тое, што ўяўляе беларуска-летувіская мяжа, распавядае загадчык аддзела ДАІ Гродзенскага аблвыканкаму, падпалкоўнік міліцыі Лясоцкі Віталаў Янушавіч.*

**Віталаў Янушавіч, паўсюдна ва ўсім сьвеце аховай мяжы займаюцца спецыяльныя службы — пагранічныя, мытныя, а ў нас дарожная аўтаінспекцыя! Як вы да гэтага ставіцеся?**

— Перш за ўсё адказ на гэтае пытаньне крыецца ў назве закону, які прымаўся Вярхоўным Саветам нашай рэспублікі «Аб часовых мерах па абароне спажывецкага рынку». Хоць і тады было ўжо зразумела, што адносіны з прыбалтыйцамі стануць назаўсёды іншымі. Па тых дзеяньнях, захадах, якія рабіла летувіскае кіраўніцтва можна было зразумець, што хутка паўстане мяжа паміж нашымі дзяржавамі. З летувіскага боку і аднесьліся да гэтага, сапраўды, па-дзяржаўнаму: збудавалі сапраўдныя КПП, завезьлі неабходнае абсталяваньне, наладзілі патрэбную структуру службаў. А ў нас толькі і абыйшліся тым, што ўвесь цяжар усклалі на дзяржаўтаінспекцыю, якая дарэчы, ніколі гэтым не займалася. Апошнім часам пачалі працаваць сумесна з Гарадзенскай мытняй. Але так справа пастаўлена пакуль толькі на гарадзенскіх КПП.

**— Але ці можа быць плён ад такіх КПП, калі цэлыя статкі скаціны пераганяюцца праз лес, дзе ўвогуле няма ніякіх дарог і варты?**

— Я таксама не лічу, што мы зможам, нават гэтымі пастамі, што ў нас ёсьць, дабіцца значнага эфекту, таму што іх не хапае нават на асноўныя дарогі. Праўда, мы зьвярталіся і ў Савет Міністраў за дапамогай аб стварэньні дадатковых пастоў, дзе ёсьць інтэнсіўны рух транспарту. Нам пакуль адмовілі. Ды і нам таксама зразумела, што абараніць рынак магчыма толькі эканамічнымі мерамі.

**— Відаць, патрэбна, усё ж сапраўдная мяжа і адпаведныя службы, як гэта робіцца з летувіскага боку?**

— Бачыце, патрэбна, каб было нейкае ўяўленьне мяжы. Скажам, да прыкладу, як гэта разумелася ў нас раней у былым Саюзе — калючы дрот... ці гэта будзе мяжа, як у краінах Заходняй Эўропы. Усяроўна перш за ўсё патрэбна пэўная канцэпцыя, якой у нас дагэтуль пакуль што няма.

А што датычыць таго ці ёсьць ад нашае службы плён, скажу так: нягледзячы на такую недасканаласьць у арганізацыі аховы мяжы стрымліваючы фактар, гледзячы на затрыманы тавар, усё ж ёсьць. Акрамя таго на колькі дазваляюць магчымасьці, нашы супрацоўнікі патрулююць тэрыторыю мяжы, але зрабіць больш чым нельга мы, вядома, не можам.

**— Дарэчы, каго даводзіцца часьцей затрымліваць, грамадзян Летувы ці Беларусі?**

— Часьцей справу даводзіцца мець з жыхарамі Летувы, аднак шмат затрымліваем палякаў. Беларусы трапляюць зрэдку, можа хіба яны лепш ведаюць аб'язднныя шляхі, хаця з боку Летувы ўсе дарогі перакапаны, ды і ў нас вяліся такія работы. Хаця зноў такі: зразумела, што ўсе гэтыя меры не вырашаюць праблемы.

**— Якімі законамі кіруюцца супрацоўнікі дарожна-патрульнай службы пры даглядзе маёмасьці ў тых хто праязджае праз КПП?**

— Існуе пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, у якой вызначаны парадак ліцэнзаваньня вывазу тавараў, мінімальная і максімальная колькасьць неабкладваемага вывазу і г. д. Праўда, як выявілася ў працэсе працы, дакумент гэты далёка не дасканалы. А супрацоўніку міліцыі проста не пад сілу вырашаць такія праблемы на мейсцы.

**— А які далейшы лёс канфіскаванага тавару?**

— Недазволенае мы забіраем і захоўваем у спецыяльным складзе. Затым праз суд прымаецца рашэньне аб лёсе гэтага тавару. Потым на складзе працуюць таваразнаўцы па яго ацэнцы, і толькі пасля гэтага тавар перадаецца райспажыўсаюзу для рэалізацыі.

50 працэнтаў затрыманага застаецца для размеркаваньня супрацоўнікам ДАІ з дазволу аблвыканкама.

**— У Беларускай прэсе былі паведамленьні аб тым, што на мяжы з Летувой з беларускага боку нясуць службу былыя амонаўцы з Вільні. З гэтай нагоды цікава, якое дачыненьне да Беларусі маюць грамадзяне іншай рэспублікі і тым больш могуць несьці службу па абароне яе мяжы?**

— Сапраўды, ёсьць такія служачыя, якія жывуць у Вільні. Але я не магу сказаць, што гэта былыя амонаўцы. Па-першае, сярод іх няма ні воднага летувіса, усе яны былыя супрацоўнікі міліцыі з Вільні і беларускага паходжаньня. Проста насталі тыя часы, калі людзі зноў вяртаюцца на родныя землі. А з працай мы ім дапамаглі, тым больш — яны прафесіяналы.



**— Як складваюцца адносіны з летувіскімі службамі аховы краю?**

— У нас вельмі цесныя кантакты, асабліва паміж мытнямі КПП, ёсьць прамая сувязь. Справа ў тым, што мы як і яны займаемся адным й тым жа — ахоўваем межы сваіх дзяржаў. І нават калі былі моманты, што на нашым КПП машына не затрымвалася, то з другога боку нам абавязкова дапамагалі і вярталі свавольнікаў. Аналагічна робім і мы.

**— Ці часта даводзіцца прымяняць зброю?**

— Такія выпадкі, на шчасце, нешматлікія, хаця здараліся ў нашай практыцы. Але скончалася ўсё без ахвяр.

**— А што сведчыць статыстыка: тэндэнцыя вывазу тавараў з Беларусі расьце ці зніжаецца?**

— Цяжка ўвогуле казаць пра тое, што назіраецца нейкая тэндэнцыя да росту ці зніжэньня. Штодзень тавары, забароненыя для вывазу, затрымліваюцца. Папросту, у адзін дзень іх можа быць больш, у другі — меней. Але не бывае такіх дзён, каб іх не было.

**— Якія пэрспэктывы чакаюць у бліжэйшы час патрульна-дарожную службу на памежжы з Летувой?**

— Цяжка казаць нават пра бліжэйшыя пэрспэктывы, але пакуль што да 1994 года мы разьлічваем несьці службу. А далей, відаць, будуць створаны спецыяльныя фармаваньні. У нас існуе шмат праблемаў, і, перш за ўсё, фінансавых, акрамя таго адсутнічаюць належныя ўмовы, не хапае патрэбнай тэхнікі, неабходнага абсталяваньня.

І яшчэ. Я лічу, што абараняць мяжу — гэта ўсё ж справа не дзяржаўтаінспекцыі. Мы маглі б там выконваць свае функцыі, функцыі міліцыі. Спадзяёмся, што хутка так і стане.

**М. МІКАЛАЙЧЫК.**

 

 



## ЛЮТАЎСКА-САКАВІЦКІЯ ЗАЦЕМКІ



1.

Мінуў, здаецца, купонны бум. Спачатку купоны прадавалі ў пяць ці нават дзесяцькроць даражэй. Потым па рублю, паўрублю, нарэшце па 25 капеек. Некаторыя, асабліва старыя людзі чамусьці вельмі цэняць іх, зьбіраюць нібы грошы й шкадуюць выдаткоўваць горай за рублі. Людзкая наіўнасць ня мае межаў. Іншыя наадварот прадказвалі беларускім купонам жыцьцё на квартал. Можа так і здарыцца. Ва ўсякім разе, відавочна, што гэта малавартая папера. Кажуць, палякі ў Беластоку адразу наладзілі іх друк. Цалкам мажліва, калі ўлічыць, што японскае абсталяваньне дазваляе ім выдатна падрабляць самыя дарагія — 1.000.000-злотавыя купюры.

2.

Нас, мусіць, уратуюць толькі свае грошы й заахвочваньне вытворчасьці ўсяго, што купляецца. Зрабіць гэтак, каб я ня толькі пасыўна жадаў купляць, але каб мне закарцела займець сваю ўласную справу й самому штось прадукаваць або хаця б стаць акцыянэрам чагось вытворчага. Інакш... А пакуль робяцца адно марныя адміністрацыйныя захады. Напярэдадні Новага году надрукавалі на кожнага гараджаніна карткі пакупніка. Набыў ты прыкладам бутэльку гарэлкі, вось табе гэтыю пакупку ў картцы й адзначаюць, каб, значыцца, лішні раз па незаконных талёнах ня мог болей купіць. Усё гэтае глупства сьмеху было варта. Сам бачыў, як адзін чалавек, маючы ажно 120 талёнаў, атаварыў на кожны па дзьве бутэлькі гарэлкі. Тым жа часам шмат каму, й мне таксама, ня ўдалося прыдбаць аніводнай. Пляшка, як вядома тады яшчэ каштавала ўсяго чырвонец, а на рынку ўжо — 150. Вылічыць прыбытык няцяжка. Дзіва што ад гэтага марнага адмячаньня ў картках неўзабаве адмовіліся.

Бачыў пазьней таго ж хлопца з сябрукамі, як прадавалі на вуліцы савецкае шампанскае па 135 р. Яго ў іх было зь дзясятак скрынак. Як вядома, каб набыць пляшку гэтага віна ў краме, патрэбны не абы-якія высілкі...

3.

Сёньня праз ваднога людзей палохаюць беспрацоўем. І ўсе, клянучы працу, нікчэмную аплату, усё адно трымаюцца месца. Бо шмат дзе начальства прапанавала тры варыянты вырашэньня грашовага пытаньня: скарачэньне часткі, нават паловы працаўнікоў, праца на пастаўкі або — прымусовы і доўгі адпачынак без аплаты. Пакуль жа сапраўдных беспрацоўных няшмат, апроч, вядома, рынкавых гандляроў. Гэта пра аднаго зь іх міліцыя паведаміла: «Трапіў у дарожнае здарэньне на аўтамабіле маркі «Форд» гр. Н., які нідзе не працуе, з маладой кабетай».

4.

Знаёмы паляк прывёз пару пачакаў пражанай аўстрыйскай кавы. 250-грамовы пачак каштуе ў іх усяго 8 тыс. злотых. Журналіст тым часам зарабляе сярэдне 3 мільёны злотых. У нас такі ж пачак каштуе часам 300—400 рублёў, а кіль звычайнай кавы 500—600. Такім чынам, я на свой журналісцкі аклад магу набыць ажно два кілаграмы кавы!.. А бяз кавы няма натхненьня, няма творчасьці.

А вось вэтэранам у крамах «Сэрвіс» выдаюць разам з варанай кілбасой ды гарошкам абавязкова па кілю ці два кавы, якая каштуе ўсяго, здаецца, 48 рублёў. Бедныя вэтэраны! Як за гэткую цану не спакусіцца ды ня выпіць добры кубак чорнага напою, ад якога й ціск скоча, й сэрца пачынае шалёна калаціцца...

5.

У Маскве 23-га лютага міліцыянты моцна адлупцавалі бальшавікоў. Вось што цікава: дэмакраты раней у часе сваіх дэманстрацый ніколі на правакацыі не паддаваліся, гэтыя ж наадварот не жадалі стрымліваць сваёй нянавісьці й агрэсыўнасьці. Вось і атрымалі дубцоў. Бачыў у тэлевізары, як добра паддалі нейкаму, што размахваў бээсэсэраўскім сьцягам. Не, сябра, Беларусі каб існаваць, трэба быць незалежнай.

Пад час гэтае дэманстрацыі памёр нейкі адстаўны гэнэрал. Сядзеў бы лепш небарака ў хаце ля тэлевізара ды піў гарбату. Марная сьмерць. Думаецца, гэнэрал той пасьпеў пажыць менавіта па-гэнэральску. Няўсьвядомленны эгаізм гэтых людзей у тым, што яны тупа прагнуць, каб усе мы да пэнсіі, да скону гібелі, як і раней, былі тымі славэтнымі віньцікам. А мы хочам пайсьці шляхам усіх нармальных народаў: перамагчы цяжкасьці й пачаць жыць як Людзі.

6.

Відовішча закрыцьця зімовай Алімпіяды ў Альбэрвілі ўразіла нават з тэлеэкрану. Марна, праўда, шукаў вачыма беларускага сьцягу. Нават эстонскі бачыў. Нашая б зборня тым часам магла мець шанцы ва ўсякім разе ў двох спаборніцтвах. Можа той жа Жалязоўскі не паказаў сябе, бо выступаў невядома пад якім сьцягам. Сьцяг натхняе спартоўца гэтак жа, як і жаўнера ў баі.

Аўтару сцэнарыя гэтага відовішча — Філіпу дэ Куклэ ўсяго трыццаць год. У нас бы такога не дапусьцілі. Стварылі б для праўдзеньня такой імпрэзы дзяржкамісію або нават цэлы камітэт з функцыянэраў... Не, 30-гадоваму ствараць авангардовы сцэнарый ні ў якім бы разе не дазволілі. У нас марнуюць чалавека да тых год, пакуль ён ужо сам анічога не захоча. Зайздрошчу я гэтаму дэ Куклэ.

Алімпійскую паходню пагасіў... анёл. Расейскія пары фігурыстаў у танцах на лёдзе складаліся ў крыж. Чорны крыж па сканалай імпэрыі.

7.

Славаку Тамашу Масарыку калі ён стаў першым прэзідэнтам Чэхаславаччыны было ўжо 68 гадоў. Спачатку унівэрсітэцкі прафэсар, а ўжо потым палітык. Беларусы ў 1918-м таксама мелі сьветлыя галовы, але ж... Чэхаславаччына ня была заціснута паміж двох вялікадзяржаўніцкіх краёў.

«Жыццё адзінак бязь веры ды ідэалаў» сп. Тамаш называў «усяго толькі вэгэтацыяй». Я ведаю цэлы народ, які ўсяго толькі вэгэтуе... Абы набіць страўнік.

8.

Першыя ўгодкі славэтнага рэфэрэндуму з некарэктнай фармулёўкай: «аб захаваньні СССР». Я быў перакананы, што нават калі здарыцца немагчымае, бальшавікі ўсё адно сфальшуюць вынікі, ім гэта ня ўпершыню. Якой толькі бязглузьдзіцы не давялося ўбачыць у савецкіх газэтах, на старонках якіх пэнсіянэры сьлінай пырскалі, пераконваючы адзін аднаго, што без гэтае абрэвіятуры ўсім нам капцы. Мне асабліва спадабаўся нейкі калгасны мэханізатар, рукой якога нехта напісаў у газэце літаральна наступнае: маўляў, Саюз нам патрэбны дзеля таго, каб калі-небудзь вырашыць пытаньне з запчасткамі для трактара, якіх ніколі не хапала!

Дзіва не адбылося. Пад мудрым кіраўніцтвам камуністычнай партыі народ прагаласаваў так, як трэба. На Беларусі асабліва рашуча выказалася «за» Гомельская вобласьць, якая атрымала ад СССР самы дарагі «падарунак». Каб паспрабаваць пазбыцца рабства, перш трэба ўсьвядоміць тое, што ты — раб...

Марнай аднак была эйфарыя з прычыны гэткай грандыёзнай перамогі. Сурочылі на радасьцях. Няма сёньня болей Дзяржавы віньцікаў і шпуньцікаў.

9.

Два, здаецца, гады таму ў Менску на былым Ленінскім праспэкце ва ўгодкі БНР дэманстраваў Ал-р Пушкін. Газэты абыйшоў здымак перакрэсьленага сьцяга БССР. А. Пушкін адчуваў, што Беларусі патрэбны свой пакутнік, як той летувіс, што спаліўся ў Коўні ў 1972 годзе. Бальшавікі за гэтым разам аднак аказаліся надзіва кемлівымі і Пушкіна ня сталі засуджваць да турмы. Судьдзя растлумачыў, што Пушкін зганьбіў ня сам сьцяг, а ўсяго толькі намаляваную выяву. Карацей,— звыклае хуліганства... Беларусь засталася без сьвятога пакутніка. Можа й слушна, бо яна сама пакутніца, якіх яшчэ ці адшукаеш...

**Я. САПЕЖЫНСКІ.**

*РЭПЛІКА*

# ГОДЗЕ БЫЦЬ МАЛПАМІ

***Апошнім часам у нашай прэсе, а таксама ў размовах гарадскія выканкамы пачалі называць мэрыямі, а іхніх старшынях — мэрамі. Няўсьвядомлены падтэкст гэтага наступны: большы брат ужо зрабіў так, трэба й нам пасьпяшаць. Карацей, нагадвае пра сябе старая беларуская хвароба...***

***Што на гэта сказаць? Расея заўсёды была напаўазіяцкай дзяржавай. Мэрыя — для яе навіна, а пра Магдэбургскае права тамака наогул ня чулі. А калі б ім там раптам захацелася займець яшчэ які-небудзь Хурал, дык што: нам ізноў малпаваць? Дарэчы, у дадатак да мэрыі ёсьць у Маскве сёньня нават Дума. Можа і нам яна патрэбна? Усё ж «наша», савецкая, руская!..***

***Не, час нам зірнуць у сваю будучыню праз акуляры нашага гістарычнага эўрапэйскага! вопыту, досыць лічыць сябе Заходняй губэрняй. Што датычыць Гародні, дык яна паводле некаторых зьвестак атрымала гарадское Магдэбургскае самакіраваньне яшчэ пры князе Вітаўце ў канчатку XIV стагоддзя. Хтосьці, магчыма, скажа: магдэбургскае самакіраваньне — гэта не сучасна. Давайце тады зірнем на Захад, на палякаў, немцаў. Ня думаю, што ратуша, магістрат або нават папросту гарадская ўправа будзе горш за мэрыю. Дык можа, нарэшце, станьма паважаць саміх сябе і шанаваць сваю мінуўшчыну?***

**М. С.**



 

**ЯЗЭП МЕНСКІ**

# СПРОБА ЛІКВІДАВАЦЬ РАДУ БНР



Завяршальны мамэнт усёй справы ўтварэньня БССР становяць дачыненьні бальшавікоў да эміграцыйнага ўраду БНР пасьля ўстанаўленьня савецкага рэжыму.

Найдраматычнейшай праявай антысавецкага змаганьня, арганізаванага Радай БНР, зьявіўся збройны супраціў савецкаму войску, ведамы пад назовам Слуцкага Паўстаньня 1920 г., у якім узяло ўдзел больш за 10 тысяч сялянаў беларускай жытніцы — Случчыны. Здавалася б, што пасьля замацаваньня савецкага рэжыму на Беларусі, урад БНР, які апынуўся на эміграцыі ў Чэхаславаччыне, застанецца ў забыцьці, як зьява мінулага. Гэтак ня здарылася, бо эміграцыйны ўрад быў пэўнай перашкодай для савецкае палітыкі адносна беларусаў.

Ужо ад першае праявы нацыянальнага руху ў акупаванай палякамі Заходняй Беларусі бальшавікі намагаліся выкарыстаць яго для сваіх мэтаў, ськіраваць яго ў патрэбнае для іх рэчышча. На той бок савецкае мяжы паўстаў адзіны беларускі фронт, пра што не магло быць няведама ў БССР, напатыкаючы там маральнае падтрыманьне ды гэтым улучаючыся ў вагульную апазыцыйнасьць да савецкага рэжыму. Ужо адзін факт бытнасьці ў гэтых умовах Рады БНР аб´ектыўна падтрымваў ідэю сапраўднае незалежнасці й адмаўленьня акупацыйных рэжымаў, незалежна ад іхняе афарбовы. Апрача гэтага, Рада БНР мела нармальныя дыпляматычныя ўзаемадачыненьні з больш як з дзясяткам сувэрэнных дзяржаў, што прызнавалі БНР «дэ юрэ» або «дэ факта», мела ў іх свае дыпляматычныя місіі й консульствы, трымала сувязь зь Лігай Нацыяў, неаднаразова падавала мэмарандумы заходняэўрапэйскім урадам пра цяжкі стан у абедзвюх акупаваных частках Беларусі. Усё гэта разам узятае й зварочвала ўвагу бальшавікоў. Адзін з савецкіх аўтараў пісаў: «Неабходна было... раскалоць адзіны белаэмігранцкі фронт, зьнішчыць БНР, якую ў сваіх мэтах заўсёды б мелі магчымасьць скарыстаць капіталістычныя ўрады пры падрыхтове новай інтэрвэнцыі».

Як відаць з гэтай вытрымкі, бальшавікі надавалі Радзе БНР асаблівае значэньне ў пляне міжнародным. Зьліквідаваць Раду БНР было б карысным і для нутраной дэманстрацыі,— паказаць народу, што няма больш ніякіх беларускіх цэнтраў, якія ня вызнаюць савецкай улады, што рэжым усімі вызнаны, як выяўнік нацыянальных спадзяваньняў народу. А калі сапраўды гэтак, дык усё творчае, няхай яно й хістаецца ды не пагаджаецца сяньня, мусіць уліцца ў вагульную плынь жыцьця, якое наважыў стварыць рэжым і дзеля чаго, асабліва тады, патрэбныя былі культурныя сілы г. зв. дробнабуржуазнай інтэлігенцыі ды нават інтэлігенцыі буржуазнай з прычыны нямеласьці інтэлігенцыі сваёй. Дзеля гэтай асаблівай мэты на час льга было нават дазволіць гэткую раскошу, як палітычны лібэралізм, які пасьля будзе адкінуты прэч, як непатрэбны лахман. Хоць публічна і называлі бальшавікі яшчэ ў 1918 г. Раду БНР зборышчам самазванцаў, але яны ведалі, што гэтая Рада была ўтворана народам яшчэ на 1-м Кангрэсе, на які Беларусь паслала блізу 2 тысячы сваіх упаўнаважаных людзей ад розных пластоў грамадзтва. Гэта азначала, што Рада мела мандат ад усяго народу. Вырваць гэты мандат з рук Рады — было прынадным і жаданым палітычным актам.

Мэта была выразная й дзеля ейнага ажыцьцяўленьня ўжываюцца адпаведныя захады. Выкананьне справы даручаецца мясцовым камуністам ды якраз такім, якія ў свой час абвінавачваліся ў нацыяналізме. У Бэрлін едуць іхнія прадстаўнікі. 12-16 кастрычніка 1925 г. яны інсьпіруюць «нараду» з удзелам колькіх адстаўных сяброў ураду БНР, якія ў той час нікога ня рэпрэзэнтавалі, і праводзяць пастанову аб самаліквідацыі ўраду БНР, аб прызнаньні ім савецкай улады, аб прызнаньні Менску за адзіны цэнтр нацыянальнага будаўніцтва. У савецкім друку гэтая прыватная сустрэча была названая другой канфэрэнцыяй беларускай палітычнай эміграцыі. Гэтак рабілася дзеля таго, каб надаць патрэбную вагу прынятым пастановам, якія нібы выяўлялі голас усяе эміграцыі й ейную палітычную капітуляцыю перад савецкім рэжымам.

Савецкія аўтары абыходзяць моўчкі той факт, што канфэрэнцыя была скліканая зь ініцыятывы бальшавікоў ды праведзена пад іхняе дырыжыраваньне. Замоўчваньне гэтага факту мела стварыць уражаньне самаліквідацыі Рады БНР. Цанава гэтак і піша: «У кастрычніку 1925 г. у Бэрліне «урад БНР» афіцыйна заявіў пра свой самароспуск». Ніякага самароспуску ня было, пра што сьведчаць заявы й пратэсты шэрагу беларускіх палітычных арганізацыяў на эміграцыі супраць «канфэрэнцыі», пастановы якой расцэньваліся як правакацыя, якая ставіла пад вынішчэньне ўвесь беларускі рух, бо давала падставу польскаму й лацьвійскаму ўрадам афіцыйна перасьледваць яго на сваіх тэрыторыях, як камуністычную акцыю, кіраваную з усходу.

Тагачасны прэзідэнт Рады БНР П. Крэчэўскі ў сваёй заяве ў прэсе назваў «канфэрэнцыю» авантурызмам і падлогам, бо ейныя ўдзельнікі ў той час ужо ня былі сябрамі ўраду й таму ня мелі ніякага права «выдаваць ад імя ўраду пакаянную заяву й на прызнаньне савецкай улады». Крэчэўскі засьведчыў: «Прэзідыум Рады гэткі паступак назваў здрадай незалежнасьці Беларусі й ніякай адказнасьці за гэта ня прыймае, адкідаючы ў корані юрыдычнае значэньне гэтай заявы. Вярхоўная ўлада на тэрыторыі этнаграфічнай Беларусі, згодна пастанове Рады рэспублікі 13 сьнежня 1919 г., належыць выключна Прэзідыуму Рады».

Такім чынам, свой мандат, дадзены 1-м Усебеларускім кангрэсам, Рада БНР нікому ня перадавала, ён застаўся у ейных руках да скліканьня у вольных умовах Устаноўчага Збору Беларусі, пра што пастанавіў сам Кангрэс. Гэтак званая бэрлінская канфэрэнцыя зьявілася канцовым мамэнтам у цэлай гісторыі ўтварэньня БССР, які меў прадэманстраваць закругленасьць юрыдычнага афармленьня савецкай улады на Беларусі. Гэта ня збылося. Нават у гэтай, чыста фармальнай, але далёкасяжнай у сваіх палітычных мэтах галіне, застаўся «прарыў». Традыцыя БНР ня была абарваная.

**Артыкул друкуецца паводле: «Беларускі зборнік», кніга 1, г. Мюнхэн, 1955 г.**

# АМЭРЫКА — БЕЛАРУСЬ

## з гісторыі дзяржаўных дачыненьняў

Прызнаньне Злучанымі Штатамі Амэрыкі незалежнасьці Рэспублікі Беларусь — бясспрэчна вельмі важная падзея. Але гэты акт—вынік дзейнасьці нацыянальнага руху на даўгім шляху нацыянальна-дзяржаўніцкага адраджэньня...

У рэвалюцыйныя й пасрэвалюцыйныя гады, 1917—20, палітычныя кантакты з амэрыканскімі прадстаўнікамі ў Гародні й Парыжы навязалі дзеячы Ураду БНР. Аднак жа палітычныя падзеі разгарнуліся так, што Урад БНР выехаў на эміграцыю і кантакты з амэрыканцамі спыніліся.

Вельмі рэальнае супрацоўніцтва паміж амэрыканцамі і адміністрацыяй тагачаснае Савецкае Беларусі (ужываўся тэрмін — Радавая Беларусь) навязалася ў гадох 1921—1923, калі на Беларусі дзеіла Амэрыканская Арганізацыя Дапамогі, створаная Амэрыканскім Кангрэсам, з функцыямі дзяржаўнага органу. Амэрыканскія прадстаўнікі на Беларусі былі тады гатовыя да шырэйшага супрацоўніцтва і палітычнага прызнаньня Беларусі, але яны хутка пераканаліся, што тагачасны беларускі ўрад быў цалкам залежны ад Масквы.

Новая фаза дзяржаўных дачыненьняў паміж Амэрыкай і Беларусьсю ў форме БССР адчынілася ў 1945 годзе, калі БССР сталася членам-закладчыкам Арганізацыі Аб´яднаных Нацыяў. Шмат хто з амэрыканскіх заканадаўцаў і ў Сэнаце, і ў Кангрэсе ўбачылі ў гэтым магчымасьць для навязаньня шырэйшых палітычных дачыненьняў з Беларусьсю. У пачатку-сярэдзіне 50-х гадоў у Вашынгтоне адбываліся дыскусіі, уносіліся рэзалюцыі, каб навязаць безпасярэднія дыпляматычныя дачыненьні з БССР. Аднак любая ініцыятыва, ня гледзячы з якога боку яна зыходзіла, трапляла на перашкоду: Масква не дазваляла ніякае незалежнае дзейнасьці для Савецкае Беларусі.

Нават падарожжа прэзыдэнта Рычарда Ніксана ў 1973 годзе ў Менск , у рэспубліку, якая нібы мела статус незалежнае дзяржавы, трэба было ўзгадняць праз Маскву.

... Рэспубліка Беларусь не выглядае, каб сьпяшалася высылаць сваіх амбасадараў, наладжваць эканамічныя сувязі, станавіцца палітычна незалежнай. Кіраўнічыя органы рэспублікі — Вярхоўны Савет — ігнаруюць і дэкларацыю аб незалежнасьці, і закон аб мове і наагул беларусізацыю краіны. Даходзіць прост да абразьлівых сытуацыяў: беларусам у Злучаных Штатах рэкамендуюць зварочвацца ў маскоўскае прадстаўніцтва для атрыманьня візы ў Беларусь.

Тлумачэньне гэткаму ненармальнаму стану можа быць толькі адназначнае: замаскаваны камуністычны траянскі конь кіраўніцтва і Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь вядзе старую расейска-цэнтралістычную палітыку — ніякага аддзяленьня Беларусі ад «матушкі Расеі» быць ня можа. Наколькі абставіны вымушаюць, можна правесьці законы, рабіць выгляд, ладзіць незалежніцкія цырымоніі, прыняць нацыянальны сьцяг і г. д.— аднак не мяняць зьместу. У Беларусі камуністам гэта, на жаль, удаецца. Да часу, пакуль у Вярхоўным Савеце і ў іншых кіраўнічых органах ды міністэрствах засядаюць «старыя праверaныя таварышы» з душою парабка, ні праяваў сапраўднае дзяржаўніцкае незалежнасьці, ні эканамічнае стабілізацыі, ні беларусізацыі рэспублікі спадзявацца нельга.*

*** Скарочаны передрук з газэты «Беларус», студзень 1992.**

# ПРАФЭСАР ТКАЧОЎ ТЛУМАЧЫЦЬ СВАЮ ПАЗІЦЫЮ

Днямі сябры гарадзенскага гісторыка-культурнага клюба «Паходня» упершыню за вялікім бяседным сталом адзначылі 6-я угодкі існаваньня сваёй суполкі. Можа гэта і не найлепшая для сьвяткаваньня гадавіна, але — першая ва ўжо незалежнай Беларусі. «Паходня» утварылася 12 сакавіка 1986 года і сталася адным з першых адраджэнскіх асяродкаў у Рэспубліцы.

Гэтае паведамленьне ня мела б асаблівае цікавасьці, каб не адная акалічнасьць. Як вядома, працяглы час прэзідэнтам клюба быў прафэсар М. Ткачоў, зараз старшыня Беларускай сацыялдэмакратычнай Грамады. Напрыканцы лютага сёлета ён наведаў Горадню, каб на паседжаньні «Паходні» растлумачыць мэты і задачы новага палітычнага утварэньня «Новая Беларусь», ініцыятарам якога і зьявілася БСДГ. Паходнеўцы па-ранейшаму паважаюць і любяць свайго былога кіраўніка, аднак ягонае паведамленьне сустрэлі даволі стрымана. Мала таго, яны лістоўна выказалі занепакоенасьць тым, што з утварэньнем «Новай Беларусі» Беларускі Народны Фронт адсоўваецца ў палітычным жыцьці на другі плян. Ліст такога зьместу з вялікай колькасьцю подпісаў быў адасланы на імя аднога з кіраўнікоў БСДГ А. Трусава. Зазначым таксама, што ў Горадні сярод палітычна актыўнай часткі жыхароў па-ранейшаму мае вялікі аўтарытэт менавіта БНФ і ягоны лідар Зянон Пазьняк. У БСДГ ж ёсць прыхільнікі пераважна ва унівэрсітэце Янкі Купалы. Вось чаму зьяўленьне на палітычнай арэне «Новай Беларусі» было ў нас сустрэта ня толькі скэптычна, але і з трывогай.

На ўгодкі «Паходні» праф. М. Ткачоў ня змог прыехаць, але перадаў свой ліст, які і быў зачытаны. Прафэсар не хаваў свайго засмучэньня іншай, чымсьці ён чакаў, рэакцыяй паходненцаў на сваё лютаўскае выступленьне. «Я са зьдзіўленьнем стаў заўважаць,— пісаў ён,— што іншадумства пачынае параджаць у часткі паходненцаў хваравітую да мяне падазронасьць, напаўнамёкі на здраду агульнай ідэі БНФ, а гэта лічы — і Беларусі». Далей ён растлумачыў, што застаецца прыхільным Народнаму Фронту, які «аб´яднаў нас усіх на барацьбу супраць старой сістэмы». Аднак сёння, калі з гэтага агульнага руху нарадзіліся некалькі партый, узьнік цэлы спэктар думак і меркаваньняў па асобных аспэктах нацыянальнага адраджэньня. Нельга бачыць у гэтым крыміналу, бо мінулі часы, калі толькі аднаадзіная думка лічылася за слушную. Аўтар зазначыў, што мэты і задачы для БНФ і партый застаюцца па-ранейшаму агульнымі, а вось ужо шляхі іх ажыцьцяўленьня могуць быць рознымі.

Старшыня БСДГ выказаў і занепакоенасьць мізэрнай палітычнай сьвядомасьцю народа, асабліва інтэлігенцыі, якая ня хоча ўступаць у новыя партыі. Думаецца, праўда, што папрок на адрас пісьменьнікаў, якіх ён іранічна назваў «паэтамі няшчаснай беларускай вёскі», у тым, што яны не сьпяшаюцца ў тую ж Сялянскую партыю, у якую ўступіў пакуль адзін толькі Кастусь Цвірка, быў не зусім аргумэнтаваны. Наўрад ці пісьменьнікам усё ж мейсца ў партыях, а не за пішучай машынкай. Аднак закід аб тым, што ў свой час яны навыперадкі лезьлі у члены КПБ-КПСС, цалкам справядлівы. Гаворачы ж аб інтэлігенцыі ў цэлым, прафэсар Ткачоў выказаўся без лішняй дыпляматыі: «Пазыцыя сёньняшняга атлусьцелага беларускага інтэлігента ясная: я ні ў якія партыі не пайду. А калі раптам вернуцца старыя парадкі, я буду «чыстым».

Прафэсар Ткачоў заклікаў не чакаць, пакуль пан Бог прынясе нам сапраўдныя свабоду і незалежнасьць і скончыў свой не зусім сьвяточны ліст словамі «Жыве «Паходня»! Жыве Беларусь!»

**А. М.**

# ВАШ ПРЫБЫТАК — НАШ КЛОПАТ!

## Біржа «ГРОДНА — ЗАХАД»

ЗАПРАШАЕ ДА ЎЗАЕМАКАРЫСНАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА АРГАНІЗАЦЫІ І ПРАДПРЫЕМСТВЫ ЎСІХ СЕКТАРАЎ ЭКАНОМІКІ

Валодаючы брокерскімі мейсцамі на біржы «Гродна — Захад», вы зможаце:

— прадаць і набыць каштоўныя паперы, прадукцыю машынабудаваньня і металаапрацоўкі, хімічнай і цэлюлозна-папяровай прамысловасьці, будматэрыялы, электроннае, электрычнае і кабельнае абсталяваньне, тавары народнага спажываньня як за рублі так і за валюту;

— атрымаць дазвол здзяйсьняць біржавыя апэрацыі на ўсіх біржах, якія ўваходзяць у аб´яднаньне «Белая Русь», размешчаных: Менск, Віцебск, Гомель, Магілёў, Брэст;

— атрымаць апэратыўную інфармацыю па міжбіржавых каналах з усёй тэрыторыі СНД, Прыбалтыкі і Закаўказьзя.

Біржа «Гродна-Захад» у складзе аб´яднаньня «Белая Русь» увайшла ў акцыянернае таварыства «Кангрэс біржаў», якое аб´ядноўвае вядучыя біржы Расіі, Украіны, Прыбалтыкі, Закаўказьзя з ліцэнзаваньнем міждзяржаўных зьдзелак.

Біржа «Гродна-Захад» валодае аўтаматызавана-камунікацыйнай сістэмай, якая адаптавана і выкарыстоўваецца на буйнейшых біржах СНД і за яе межамі.

Торг на біржы «Гродна-Захад» зьдзяйсьняецца: аўторак, серада, чацьверг, пятніца.

На штотыднёвыя таргі біржы выстаўляюцца 17 класаў тавараў на агульны кошт 1,5 млрд. руб.

Біржавы абарот перавышае 50 млн. руб.

Калі вы хочаце дасягнуць камерцыйнага посьпеху, праквітаньня сваёй справы, самае правільнае рашэньне?!

— стаць клієнтам біржы «Гродна-Захад»

Наш адрас: Рэспубліка Беларусь, 230005, г. Гародня, вул. Церашковай, 18 р/р 467924 у філіі Беларускага прамысловаінавацыйнага банку «Прыорбанк» МФО 152101 код 718

| | |
|---|---|
| Біржавы канал: (0-252) | 44-26-53 |
| Факс (0-152) | 45-35-98 |
| Тэлефоны: | 45-46-10 |
| | 45-31-37 |
| | 45-31-36 |

Чакаем вашых прапаноў!!!

## ТОЛЬКІ СЯГОНЬНЯ І ТОЛЬКІ ЗА РУБЛІ!

Усе віды брокерскіх паслуг на біржах Рэспублікі Беларусь і за яе межамі — гэта брокерская кантора «ГЕМІНІ».

У Вас ёсьць праблемы з набыцьцём сырывіны і рэалізацыяй тавару? Брокерская кантора «ГЕМІНІ» Вам дапаможа!

Прадаём і здаём у арэнду брокерскія мейсцы на біржы «Гродна — Захад» сістэмы біржаў «Белая Русь».

БК «ГЕМІНІ» паведамляе прадпрыемствам, арганізацыям усіх формаў уласнасьці, юрыдычым і фізічным асобам аб правядзеньні далейшага адзінага міжнароднага гандлю на біржы «Гродна — Захад» у складзе «Кангрэса Бірж» з ліцензіраваньнем міждзяржаўных зьдзелак.

Мы запрашаем Вас да супрацоўніцтва.

Тэл. 47-14-23, 44-13-12.

На заўтрашняе свята вам патрэбен падарунак?
У інтэр´еры вашай кватэры неабходна новая карціна?
Ці можа, хочацца набыць новую кнігу?
**Усё гэта ёсьць у магазіне-салоне**

## «У МАЙСТРА»

Наш адрас: Гародня, вул. Кірава, д. 8, тэл. 44-14-68. Магазін працуе кожны дзень ад 10 да 19 гадзін, у нядзелю — ад 10 да 16 гадзіны.

Спадзяёмся, што вы застанецеся задаволены пасля візіту да нас.

## ФІРМА «САДКО»

запрашае ў камерцыйны магазін, які разьмяшчаецца ў файе палаца культуры хімікаў.

Прымаем на камісію ўсе віды аўтамотатэхнікі, быттэхнікі, розныя тавары. Камісійны працэнт па дамоўленасьці, у залежнасьці ад віду, якасьці, працягласьці захаваньня тавару.

Прымаем папярэднія замовы на набыццё аўта- і мотатэхнікі, іншых тавараў. Гарантуем дастаўку тавараў незалежна ад таго ў якіх крамах яны набываюцца. Дапамагаем паслугамі па абмену тавараў аптовага гандлю.

Пры краме працуе салон, які праводзіць папераджальную падрыхтоўку, дэманструе аўта-мотатэхніку.

У продажы ёсьць камплекты газабалоннага абсталяваньня.

Даведкі па тэлефоне 2-21-13 штодзень круглыя суткі.

## КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

Гэта:

— рэгіянальны асяродак беларусаў усяго сьвету;

— удзельнік знешніх эканамічных стасункаў з правам вядзеньня пасрэдніцкай дзейнасьці ў зьнешніх эканамічных апэрацыях як у валюце, так і ў рублях, а таксама на ўмовах кансігнацыі;

— генеральная ліцэнзія на вываз друкарскай прадукцыі, рэкламных лістоў і буклетаў, друкарскай рэпрадукцыі і фатаграфій.

Фонд, а таксама ўтвараемыя пры ім юрыдычныя асобы вызвалены ад падатку на прыбытак.

Фонд сузаснавальнік дзьвух біржаў: «Гродна—Захад» і «Гароднябіржа», заснавальнік пяці малых прадпрыемстваў.

Запрашаем прадпрыемствы, арганізацыі, кааператывы да супрацоўніцтва.

Тэл. 45-25-94.

Культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына» аб´яўляе конкурс на заступленьне вакантнай пасады сакратара-машыністкі.

Абавязковыя ўмовы: уменьне весьці справаводства на беларускай мове.

Пажадана веданьне ангельскай мовы.

Тэл. 45-25-94

Культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына» запрашае часовыя працоўныя калектывы з сваімі аб´ёмамі работ.

Аплата да 90%

Тэл. 45-25-94

Турыстычны асяродак культурна-асьветніцкага фонду «Бацькаўшчына» устройвае падарожжа турыстаў у Рэспубліку Польша.

Зьвяртацца: вул. Савецкая, 10, пакой 3.

Брокерская кантора культурна-асьветніцкага фонду «Бацькаўшчына», якая мае мейсцы ў сістэме бірж «Белая Русь» і на біржы «Гародня — біржа», запрашае да супрацоўніцтва.

Тэл. 47-00-65, 44-27-10.



*Перабудоўваць? Аднаўляць? Будаваць занава?*

# ПОГЛЯД З-ЗА МЯЖЫ

**БЕЛАРУСЬ — БЕЛАСТОЧЧЫНА: ПЭРСПЭКТЫВЫ СУПРАЦОЎНІЦТВА**

Яшчэ тры гады таму Беларусь вяла свой вонкавы гандаль у вельмі абмежаваным маштабе. Большасьць пытаньняў экспарту й імпарту вырашалася цэнтрам у Маскве, а мясцовыя органы проста выконвалі загады. Гарбачоўскія рэформы далі рэспублікам большую незалежнасьць. Паволі й марудна, але настойліва, узьнікалі законныя падставы для вонкавай эканамічнай дзейнасьці рэспубліканскіх прадпрыемстваў усіх сэктараў гаспадаркі, у тым ліку й прыватнага. Усьлед за гэтым пачалі ўзьнікаць гандлёвыя фірмы пры паасобных міністэрствах, абласных і гарадскіх выканаўчых камітэтах. Права на замежны гандаль могуць атрымаць таксама каапэратывы, малыя прадпрыемствы, калгасы, а нават грамадзкія арганізацыі...

У гандлёвай практыцы найбольш плённымі могуць аказацца кантакты зь лякальнымі фірмамі — гэтыя кантакты адчыняюць таксама найвялікшыя пэрспэктывы. Лякальныя босы палітыкі шукаюць дарогу ў сфэру капіталу й камэрцыі. Гэткая практыка найчасьцей востра асуджаецца апазыцыйнымі кругамі — праспэрыта камуністаў у сфэры камэрцыі выклікае натуральнае супраціўленьне. Трэба тут аднак задумацца над шырэйшым аспэктам гэтае праблемы. З вопыту іншых дзяржаваў ведаем, што пераход ад камуністычнай (сацыялістычнай) гаспадаркі да капіталізму не такая ўжо простая справа — нават, калі створацца дзеля гэтага адпаведныя юрыдычныя ўмовы, заўсёды застаецца яшчэ праблема капіталістаў: скуль іх узяць? Трэба задумацца, ці камуніст, які трансфармуецца ў капіталіста, наогул яшчэ камуніст? Я лічу, што не. І таму працэс гэты ўспрымаю як станоўчы. Калі ператварэньне цэнтралізаванай камуністычнай гаспадаркі ў вольную й канкурэнцыйную капіталістычную эканоміку ёсьць найпершай мэтай, дык кожны спосаб добры, абы толькі вёў да гэтае мэты й даваў пажаданыя вынікі.

Апазыцыя цалкам іначай адносіцца да гэтага пытаньня й гэта зразумела ў варунках палітычнай барацьбы. Але цяпер, калі ідэялагічная барацьба ўжо адмірае, на ўсю справу трэба глядзець іначай, у катэгорыях карысьцяў — калі частка існуючай намэнклятуры пяройдзе ў камэрцыю, гэта ня толькі «разьмякчыць» уладу, але й створыць першыя кадры для новага эканамічнага ладу.

Працэс зьменаў эканамічнай структуры будзе праходзіць у Беларусі доўга й нерацыянальна. Грамадзтва надалей думае катэгорыямі гэтак званай «сацыяльнай справядлівасьці» ды гэты чыньнік колькі яшчэ разоў будзе выкарыстоўвацца ў палітычнай барацьбе. Можна спадзявацца, што грамадзтва не заакцэптуе беспрацоўя, радыкальнага павышэньня цэнаў і браку сацыяльнага забесьпячэньня — разьлік на нейкі хуткі «паварот» у эканоміцы тут не дарэчы.

Беларусь у найбліжэйшыя гады будзе патрабаваць вялікага імпарту сельскагаспадарчых прадуктаў. Павялічыцца таксама запатрабаваньне на прадукты высокае тэхналёгіі: электроніка, камп´ютары, машыны. Можна таксама спадзявацца зьмяншэньня ўсіх інвэстыцыяў і будаўніцтва, у выніку чаго зьменшыцца імпарт тэхналёгіяў і запатрабаваньне на будаўнічыя матэрыялы. Павысіцца запатрабаваньне на танныя тэкстыльныя прадукты й абутак з Усходняй Азіі.

З свайго боку Беларусь будзе прапанаваць прадукты з нафты, дрэва й прадукты хімічнай індустрыі (угнаеньні, цэмэнт). Дзякуючы добрым сувязям з Расеяй, Беларусь будзе забясьпечана сыравінай й зможа выкарыстаць сваю індустрыю — найбольшае значэньне будзе мець тут нафта. Фабрыкі ў Новаполацку й Мозыры — адныя з самых лепшых ува ўсім былым СССР і здаецца, што іхні патэнцыял будзе выкарыстаны.

З другога боку. Беларусь можа адыграць вялікую ролю пасрэдніка ў пастаўках для Расеі. Параліч цэнтральнай маскоўскай улады дае вялікія магчымасьці. Роля Беларусі будзе асабліва важнай у выпадку, калі пляны канвэрсіі расейскай валюты акажуцца нерэальнымі. Перашкодай можа аказацца ўвядзеньне сваёй валюты ў Рэспубліцы Беларусь — абазначала б гэта адарваньне ад расейскага рынку, што на сёньняшні дзень не на руку для эканомікі краіны. Трэба мець надзею, што нічога падобнага не адбудзецца. Адначасова варта адзначыць, што ўсе прадугледжваньні наконт далейшага разьвіцьця падзеяў у Беларусі вельмі спэкулятыўныя. Апошнія падзеі паказваюць, што спадзявацца можна літаральна ўсяго, а разумных у галіне постсаветалёгіі пакуль няма.

**В. СЭЛЬВЯСЮК.**
**г. Беласток.**



*Усё жыцьцё бясконцая чарга.*

*Анатоль Брусевіч*

## КРЫЖ

*Каля брамы касьцельнай Хрыстос*
*З цяжкім крыжам мінуўшых вякоў.*
*З-пад абломкаў няпраўды ўваскрос,*
*Ды далей нікуды не пайшоў.*

*А навошта кудысьці ісьці?*
*Каб крывёю зямлю палівацъ?*
*Гэты крыж нам таксама нясьці,*
*І таксама на ім паміраць.*

*Гэта спадчына наша, і Бог*
*Зьберагчы дапаможа яе.*
*Дык наложма цярновы вянок.*
*Веру я, што і ён зацьвіце.*

## З «РЭНО» НАМ НЕ ДАМОВІЦЦА...

Найбольшую актыўнасьць з усіх замежных фірмаў на польскім аўтамабільным рынку выяўляе славутая французская «Рэно». Яна лідзіруе, падобна, ва ўсім: пачынаючы са стварэньня шырокае сеткі асяродкаў тэхнічнага абслугоўваньня сваіх машын па ўсёй Польшчы і сканчаючы тэлерэклямай. У недалёкай будучыні «Рэно» магчыма атрымае выключнае права безпадатковага экспарту сваіх аўтамабіляў у РП. Заўважым, што пры ўсім гэтым палякі прадукуюць тры мадэлі леккавікоў самі.

На Беларусі сваіх леккавых аўтамабіляў пакуль няма. Экспартаваць іх з Захаду — справа не для нашай кішэні. Разумней, канешне, прадукаваць машыны ў сябе, балазе Беларусь мае разьвітую аўтамабільную прамысловасьць. Аднак дагэтуль далей размоў аб сумеснай вытворчасьці леккавікоў разам зь немцамі ў сталіцы справа, здаецца, не пасунулася. І вось новы праект — яшчэ адзін такі ж сумесны завод у Гародні, дзе існуюць для гэтага ўмовы: заводы карданных валаў і аўтаагрэгатаў. Безумоўна, лепш два аўтазаводы, чымсьці ніводнага...

**Р. МЕНДЖЫБОЎСКІ.**

## АБ ВАЛЮЦЕ

### У КАМЭРЦЫЙНЫМ БАНКУ «КОМПЛЕКС»

У апэрацыях, зьвязаных з валютай, найбольшую актыўнасьць праяўляе камерцыйны банк «Комплекс». Мы маем намер даваць пастаянную інфармацыю аб курсах усіх відаў валюты, а пакуль:

| | |
|---|---|
| даляр ЗША | |
| цана скупкі (руб.) | 110 |
| цана продажу (руб.) | 140 |
| марка ФРГ | |
| цана скупкі (руб.) | 60 |
| цана продажу (руб.) | 80 |

За апошні тыдзень цана даляра павялічылася на 5 рублёў. Захоўваецца тэндэнцыя да яго росту. Нядаўнія спадзяваньні на тое, што адбылася стабілізацыя рубля, канчаткова разьвеяны. Даляр па-ранейшаму дарагі і ўстойлівы.

## АБ´ЯВА

***Рэдакцыя газэты «Пагоня» запрашае на сталую працу журналістаў, адказнага сакратара, рэдактара па рэкляме.***
***Даведкі па тэлефоне: 45-25-94.***

***У газэце выкарыстаны здымкі А. УЛАДАСЕВІЧА.***

# КАСЬЦЁЛ, ЗАСНАВАНЫ ВІТАЎТАМ...

14 сакавіка Беларускім дзяржаўным музэем гісторыі рэлігіі, гродзенскай біскупскай курыяй і Саюзам палякаў Беларусі была наладжана навуковая канфэрэнцыя, прысьвечаная 600-годдзю першага гродзенскага касьцёла, вядомага як Фара Вітаўта, які быў па-варварску зьнішчаны ў 1961 годзе.

Паводле некаторых зьвестак касьцёл Маткі Боскай існаваў ужо ў 1389 г., аднак апошнім часам яны лічацца непраўдзівымі. Ва ўсякім разе дакладна вядома, што храм, заснаваны Вітаўтам, тады яшчэ князем Гарадзенскім, дзейнічаў у 1392 годзе. Першым на канфэрэнцыі выступіў ксёндз прафэсар Тадэвуш Крахэль з Беластоку — з паведамленьнем аб пачатках утварэньня каталіцкіх парафій у Гродні і навакольні. Ён зазначыў, што мэтай каталіцкага клеру было прывесьці ва ўлоньне хрысьціянства паганскае насельніцтва. Але, як высьветлілася, ставілася задача і ўплываць на праваслаўных вернікаў. Кранаючы вельмі складанае, паводле яго прызнаньня, пытаньне нацыянальнага складу мясцовага насельніцтва, прамоўца выказаўся, ня ведаю ці наўмысна, але не зусім дакладна, назваўшы літоўцаў іх сучасным імем, а беларусаў — «рускімі». Зрэшты, заблытаць нацыянальны склад насельніцтва сярэдневечнай Беларусі — у традыцыі польскай гістарычнай навукі. Дарэчы, як вынікала са сказанага, уласна польскае насельніцтва — мазуры пражывала толькі на захадзе Гродзенскага павету, у сёньняшніх межах Польшчы. І яшчэ цікавы факт: самай апошняй у канчатку 18 стагодьдзя была пераўтворана ў каталіцкую Сапоцкінская вуніяцкая парафія, дзе зараз пражываюць самыя зацятыя ў Гродзенскім раёне палякі.

Намесьнік старшыні Гродзенскага гарвыканкаму кандыдат навук Аляксандр Мілінкевіч зазначыў, што праваслаўныя цэрквы паявіліся ў горадзе на два стагоддзі раней за касьцёлы і за гэты час пасьпела ўтварыцца адметная гродзенская школа сакральнага дойлідства. Напрыклад, у 1568 годзе ў горадзе існавала 9 цэркваў, 2 касьцёлы і сінагога. Што ж датычыць Фары Вітаўта, дык яна лічылася самым вялікім і прыгожым у Вялікім Княстве Літоўскім касьцёлам. Амаль два стагоддзі касьцёл быў драўляным і толькі пры каралі Стэфане Баторыі стаў мураваным. Аднак у цэлым гісторыя яго была няўдалай: ён часта гарэў, а пасьля далучэньня Беларусі да Расейскай імпэрыі быў перароблены ў праваслаўную царкву. Пажары ў храме здараліся і надалей і ўрэшце рэшт архітэктура была настолькі зьнявечана, што на ім зьверху зьявіліся пяць цыбульных купалаў. У 1923 г. яму зноў было вернута аблічча касьцёла, але перабудова аказалася няўдалай. Свой канчатковы выгляд касьцёл набыў у 1935 г. і такім яго запомнілі гродзенцы. Рашэньне аб яго зьнішчэньні было прынята гарвыканкамам у жаночае сьвята 8 сакавіка 1961 г...

На канфэрэнцыі таксама выступілі: Людміла Карнілава з Музэю гісторыі рэлігіі з дакладам аб манаскіх ордэнах у Вялікім Княстве Літоўскім і Славамір Фронтчак з Музэю войска польскага ў Варшаве з паведамленьнем аб гісторыі вайсковых капэлянаў у Рэчы Паспалітай і Польшчы. Дарэчы, варшаўскі навуковец з сантымэнтам зазначыў, што ягоныя карані выводзяцца зь Беняконяў у Воранаўскім раёне і сярод ягоных продкаў ёсьць літоўцы, татары, беларусы і палякі.

Менскі архэолаг Алесь Краўцэвіч паведаміў, што неўзабаве пачнуцца раскопкі падмуркаў Фары Вітаўта, і сказаў, што касьцёл павінен быць адноўлены, бо без яго «Гародня не сапраўдная Гародня». Яго словы былі сустрэты воплескамі. На канфэрэнцыі прысутнічалі госьці: Беластоцкі ваявода, мэр г. Беластоку і Маскоўскі біскуп Тадэвуш Кандрусэвіч.

**В. П.**



*Ці хутка скончыцца супрацьстаяньне?*

**Ч. ВАРТА**

## ГАЗЭТНАЕ АПАВЯДАНЬНЕ

# 25 САКАВІКА

Сёньня ўжо 25-е. Праспаў. Сьпехам галіўся. Нечага зжаваў, вузлячы на шыі гальштук. Па панядзелках у нас лятучка. Начальства дужа раздражняецца на спозьненых. Пасядзеў, паслухаў напаўвуха. Усё пражэкты. Чулі. Ведаем напамяць. Ніхто ўжо не дае веры. Папросту начальства ўжо ня хоча паранейшаму, але й ня можа па-іншаму. Адчувае, што час перарабляцца. Але ж народжаны каб поўзаць, лятаць ня здатны. Ты ж сядзі як статуй ды назірай гульню ў голага караля. Спэк-такаль. Фарс. Цырк на дроце. Няздатныя да нічога камэдыянты. Адным словам, «саўпартслужачыя», як пісаў адзін напаўзабыты расейскі пісьменьнік.

Вярнуўся ў пакой, нібы мяхі пацягаўшы. Паглядзеў на груд папераў на стале, на рупна-бязмоўных калегаў. Нудота. Пад выглядам купіць сьвежых газэт пайшоў у забягалаўцы выпіў растваральнае кавы з кантовай шклянкі. Смаку мала, але й за гэта дзякуй, як калісьці пісалі, партыі ды ўраду.

Сустрэў сябрука. Быў учора на зьездзе БНФ. Разгаварыліся. У захапленьні. Ніякае аматаршчыны. Адкрыцьцё асьвяцілі сьвятары трох канфэсій. Апавядаў, як спатыкалі прэсу. «Зьвязда», «Праўда»,— называюць. Сьмех у залі. «Московскіе новості», «Свабода», «Наша Ніва». Пляскацьне. Кожнае паседжаньне распачыналася «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...»

Начаваў у нейкага дзеда. «Як там — кажа,— наша Беларусь?» «Жыве, дзеду». Дастае паважна пляшку з шафкі, на стол стаўляе. І старая ўвіхаецца з закускай. Здаецца ж, незнаёмыя зусім людзі...

Установа мая родная. Даўгія сутонныя калідоры. Голыя сьцены. Накурана. Шмат шэрых дзвярэй з кепскімі замкамі. Расейцы даўней называлі гэта «прісутствіем». Трапна, халера. Спыняе Р. «Ты што,— пытае,— такі парадны?» «Ды я»,— пачынаю штосьці выдумляць. «Дык сёньня ж 25-е!» І ўзапраўду, вось галава... Ня йнакш, скляроз.

Спускаюся паверхам ніжэй. Замкнута. Замкнута. Прачыняю дзверы. Куродыму... «Што шуміцё, хлопцы?» «Адзначаць як думаем». «Дык жа ты, Юрка, праваслаўны. Усходнік. Твой дзень — 9 красавіка, ці калі там. Карацей, браце, два тыдні трэба пачакаць»,— вярзу я ў адказ. «Пайшоў ты. Мы — вуніяты». «Ну, добра, хлопцы. Я пажартаваў». Прычыняю. Няякасныя замкі — ваўкавыскія.

Зноў ідзем на каву. Ужо ў іншае месца. Утрох. Сьвята ж. Грэх працаваць. У піўнічцы вараць добрую. Гэта табе не з самавару. Спускаемся па прыступках удол. Прыемны пах. Тутака яшчэ захаваліся кубачкі. «Усім падвойныя». «Мне ня трэба». «За БНФ можна і дубальтовую»,— спыняю яго.

Дваццаць пятае сакавіка. Дзень пачацьця Хрыста. Шчаснага пачацьця. Ці не адмыслова была і яна, БНР, абвешчана менавіта тады? Добры знак. Нешчасьлівы лёс. Неяк жа не спалучаецца. Лягічны пачатак з абсурдным канцом. Вось што такое БНР.

Рыпуча дзвынкае тэлефон. Гэта мне. «Слухаю». «Васіль». «Ну, што ў цябе?» «Хадзіў. На прыймо. Да гэтага бугая намэнклятурнага». «Ну»? «Узьняўся насустрач. «Дэмакрат». Гладкі як сыр. Так і прэ з твару здароўе. Вітаміны, якаснае харчаваньне. Адразу адчуваецца». «Ды ня сплывай ты атрутай. Сабе горай». «Што, вашая газэта так і называецца яшчэ «Сьвятлом камунізму»? Знаю-знаю: два разы толькі выходзіця цяпер. Няма паперы. Бульварная прэса пераняла». Кладу слухаўку. Зашмат цікаўных навокал. Тэлефон нерашуча дзвынкае, як у апошні раз.

Уваходзіць калега. Над шырокім, даўно нямодным гальштукам, з хранометрам на шыі. Цыркач. «Віншую». «З чым?» Тлумачу. «А ты знаеш,— гаворыць ён,— мая цётка родная была жонкай аднаго з членаў таго ўраду». Вось дык неспадзяванка. «Каляды. Забілі яго. Раньш пра гэта баяліся гаварыць. А яна ад'ехала. У Сібір ці Казахстан. Потым недзе на Украйне жыла. Часам пісала. Але так ні разу не прыехала.

Памёрла ў чужыне».

Сазваньваюся.

«На старым мейсцы». Каля Фары.

Выходзьма ўдвох. Вузкае ручво старое вуліцы. Куродым. Рухавікі. Нясконцы рух. Дыхаць няма чым.

Хаваемся ў браму. Тлумачу першае правіла разьведчыка: ты бачыш усіх, цябе — ніхто. А вось і ён, трэйці. Азіраецца. Выходзім са схованкі. Хрыстос у цярнцы сагнуўся пад цяжарам крыжа. Нясе на захад. Кожны нясе свой крыж, такі, які здатны ўзьняць.

Сядзімо за высокімі столікамі. Трошкі куродымна. За шклом у цагляным полымі круцяцца безгалоўныя куркі. За суседнім нейкі паляк ачмурае дзяўчатак. Мы таксама п'ямо растваральную. Са шклянак. «Колькі цукру?» «Цукар трэба эканоміць. (Наш дасьціпнік). Па лыжцы». «Ужо даэканоміліся». «Усё адно: трэба ісьці да канца. Эканоміка павінна быць эканомнай» і г. д.

За вокнамі гужам прайшлі міліцыянты. «На мітынг»,— у адзін голас канстатуйма мы. Файна тутака, ня хочацца сыходзіць. Калісьці была брама. Замуравалі з абодвух бакоў. Вось табе й лёкаль *. Граніт, ліхтары. «раб-ьлырГ»,—чытаю я наадварот на шыбе. Расклад працы. На вуліцы халаднавата й ходзяць уперад-узад.

У пляцавым гайніку ўжо купіцца моладзь. Традыцыйны вымпел з гэрбам. На даўгім спынінгу — бел-чырвон-белы. Мы праходзьма паўз. У падземную прыбіральню. Вяртаемся, купляем спецвыпуск «Свабоды». Хлопцы пачынаюць нягучна, але бадзёра сьпяваць. «У гучшарах...» «Мы выйдзем...» Міліцыі ня відаць. За ўвесь час бокам праходзяць два жаўтаротыя з друкамі і рацыяй. Нязлосна пасьміхаюцца.

Сядзімо за сталом. «Зуброўка». Не якаясь «Руская», «Жыве!..» зь Беластоку (яны таксама ўпершыню не баяцца) гучыць вершавана-змагарная кампазіцыя, падзеленая куплетамі «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Адразу за гэтым слухаем Язэпа Барэйку. Потым рэпартаж зь менскага зъезду БНФ. «Фронт! Фронт! Фронт!»

Нараніцу парторг хадзіў прынюхваўся, віжуючы хто ўчора піў. Асабліва правяраў беспартыйных.

*Мейсца, дзе можна чаго выпіць (польск.).

**25-26 сак. 1991.**

**Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд «Бацькаўшчына».**

Аўтары надрукаваных артыкулаў нясуць адказнасьць за падбор і дакладнасьць прыведзеных фактаў, цытатаў, эканамічных дадзеных, асабістых імёнаў, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, а таксама за тое, калі ў артыкулах зьмешчаны дадзеныя, якія ня падлягаюць адкрытай публікацыі.

Рукапісы не рэцэнзуюцца і ня вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: г. Гародня, вул. Савецкая, 10.
Рэдакцыйная калегія.
Гарадзенская абласная узбуйненая друкарня, 230023, г. Гародня, вул. Паліграфістаў, 4.
Тыраж — 2000 асобнікаў. Зак. 1173
Кошт 1 рубель.
Нумар падпісаны да друку 24.3.92 г.